

# БЕЛАРУС

№439 • Лістапад 1996г.
Год выд. 45

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## БЕЛАРУСЬ — У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ АМЭРЫКАНСКІХ ПАЛІТЫКАЎ

29 кастрычніка ў Нью Ёрку праваабарончая арганізацыя "Human Rights Watch" правяла круглы стол па тэме маючага адбыцца на Беларусі рэфэрэндуму па зьмяненьню Канстытуцыі і становішча з правамі чалавека.

Аналіз лукашэнкаўскага праэкту новай Канстытуцыі прафесар Дона Арц пачала з таго, што засьведчыла «праэкт напісаны дыктатарам без усялякага ўяўленьня пра дэмакратычныя прынцыпы». Між іншым, спадарыня Арц падзялілася з прысутнымі сваімі ўражаньнямі пра нядаўнюю паездку на Беларусь і нават прадэманстравала фрагмент відэазапісу жорсткага зьбіцьця мірных удзельнікаў «Чарнобыльскага шляху» 26 красавіка, які даволі красамоўна ілюстраваў пэрспэктыву беларускага грамадзтва ў выпадку прыняцьця лукашэнкаўскай канстытуцыі. Прафесар Дона Арц засьведчыла, што прэзыдэнт Беларусі ўжо цяпер ігнаруе судовую і заканадаўчую ўлады, а праэкт канстытуцыі цалкам ліквідуе самастойнасьць і парлямэнту, і Канстытуцыйнага Суду.

Выступаючы як прадстаўнік Беларускага Гэльсінскага камітэту, Сяргей Навумчык спыніўся на праблеме легітымнасьці рэфэрэндуму. Ён адзначыў, што рэфэрэндум прызначаны парлямэнтам з парушэньнем Канстытуцыі, і ўжо адно гэта дае падставу лічыць яго нелегітымным. Падрыхтоўка ж так званага «народнага галасаваньня» адбываецца з грубымі парушэньнямі Закону аб рэфэрэндуме. Гэта праяўляецца, прынамсьці, у тым, што апанэнты прэзыдэнта цалкам пазбаўлены доступу да сродкаў масавай інфармацыі.

Дарэчы, на гэтую акалічнасьць зьвярнуў увагу і кіраўнік Аддзелу Украіны, Беларусі і Малдовы Дзярждэпартаменту ЗША сп. Джэк Сігал. Патрэбная адкрытая і шырокая дыскусія па варыянтах канстытуцыйнага ўладкаваньня Беларусі, але ў цяперашняй атмасфэры, пры адсутнасьці магчымасьці выказаць розныя пагляды такая дыскусія робіцца практычна немагчымай. Рэфэрэндум можа быць прызнаны сусьветным супольніцтвам толькі тады, калі ўся працэдура будзе выканана ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй, а гэтага пакуль няма, — адзначыў высокапастаўлены прадстаўнік Дзяржэпартаменту.

Пра антыдэмакратычнасьць цяперашняй улады на Беларусі гаварылі Ала Ор[illegible]-Рамана, Галіна Русак, Вітаўт Кіпель.

Зянон Пазьняк засярродзіў увагу ўдзельнікаў «круглага стала» на тым, што парушэньне правоў чалавека на Беларусі, і асабліва этнічная дыскрымінацыя беларусаў — вынік палітыкі ўнутранай акупацыі Беларусі Расеяй. БНФ заўсёды сьцьвярджаў, што Крэмль будзе цярпець Лукашэнку да таго часу, пакуль ён будзе яму выгодны. І практычна ўсе маскоўскія палітыкі, незалежна ад сваёй партыйнай прыналежнасьці, сыходзяцца ў імпэрскіх памкненьнях і жадаюць впадпарадкаваць сабе Беларусь. І ў гэтым пераконваюцца тыя беларускія дэмакраты, якія яшчэ маюць ілюзіі наконт расейскай «дэмакратыі».

У наступны дзень, 30 кастрычніка, тэма Беларусі разглядалася у Кангрэсе ЗША на брыфінгу для прадстаўнікоў урадавых установаў і грамадзкіх арганізацыяў, дыпламатаў і прэсы, арганізаваным Камісіяй па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Пра павялічаную цікавасьць вашынгтонскай палітычнае эліты да беларускай праблемы сьведчыць хоць бы тое, што месцаў у даволі вялікай зале для ўсіх жадаючых не хапіла.

З дакладамі выступілі Старшыня БНФ «Адраджэньне» Зянон Пазьняк, кіраўнік Аддзелу Украіны, Беларусі і Малдовы Дзяржэпартаменту ЗША сп. Джэк Сігал, прадстаўнік Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня доктар Янка Запруднік і старшыня арганізацыі «Адвакаты за правы чалавека» Анці Каркіяківі.

Выступ Зянона Пазьняка быў прысьвечаны этнічнай дыскрымінацыі беларускай нацыі. Фактычна ўпершыню тэма этнацыду беларусаў была прааналізаваная ў кантэксьце агульнапрынятых нормаў захаваньня правоў чалавека. У адказах на пытаньні прысутных лідар БНФ закрануў гэтаксама праблемы ўзаемаадносінаў з Расеяй, свабоды сродкаў масавай інфармацыі, разьмеркаваньня гуманітарнай дапамогі і іншыя.

Даўшы рэтраспэктыву амэрыканска-беларускіх дачыненьняў, сп. Джэк Сігал адзначыў асаблівую заклапочанасьць сітуацыяй з правамі чалавека на Беларусі ў апошнія два гады. Разам з тым ён прызнаў, што заходнія краіны, у тым ліку і Злучаныя Штаты, сузіралі, як ламаецца дэмакратыя на Беларусі. Але цяпер пазыцыя ўраду ЗША будзе зьменена і зробіцца больш акрэсьленай. Прадстаўнік Дзяржэпартаменту заявіў, што сабраны нядаўна зь ініцыятывы Лукашэнкі гэтак званы «кангрэс народа Беларусі» ня можа быць легітымным. Ён падкрэсьліў, што ЗША не прызнае рэфэрэндум, калі ён адбудзецца ў антыдэмакратычных умовах.

Прадстаўнік Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня доктар Янка Запруднік зрабіў аналіз становішча ў беларускім грамадзтве. Цікавасьць удзельнікаў брыфінгу выклікаў і той факт, што кніга спадара Запрудніка па гісторыі Беларусі, выдадзеная некалькі год таму ў Амэрыцы, ня можа выдрукавацца ў яго на радзіме. Прычынай сталася новая апошняя глава, ў якой доктар Запруднік аналізуе палітыку прэзыдэнта Лукашэнкі.

Старшыня арганізацыі «Адвакаты за правы чалавека» Анці Каркіяківі пазнаёміў прысутных з вынікам аналізу лукашэнкаўскага праэкту Канстытуцыі, зробленага групай незалежных юрыстаў. Прыкметныя рысы праэкту — адсутнасьць падзелу ўладаў, дыскрымінацыя прынцыпу парлямэнтарызму, несамастойнасьць судовай сыстэмы. «З чыста юрыдычнага пункту погляду можна было б сказаць, што гэты праэкт падрыхтаваны людзьмі надзвычай нізкай прафесійнай кваліфікацыі, але аўтары кіраваліся не логікай права, а логікай улады».

Увага да будучыні дэмакратыі на Беларусі з боку ўраду ЗША была падцьверджаная і ў часе гутарак З. Пазьняка і С. Навумчыка ў дзяржэпартаменце. Прадстаўнікі БНФ разам з доктарам Вітаўтам Кіпелем былі прынятыя Джэкам Сігалам і кіраўніком аддзелу па праблемах дэмакратыі, правоў чалавека і прафсаюзаў Пітэрам Айкерам.

**Дарагія чытачы і суродзічы!**

**Наступны нумар «Беларуса» — калядні.**

**Каляднія прывітаньні мусяць быць атрыманыя да сярэдзіны сьнежаня. Спадзяемся, што разам із вішнаваньнямі будуць прысланыя і ахвяраваньні на газэту.**

**Апошнімі месяцамі адміністрацыйныя выдаткі газэты значна павялічыліся і таму, каб газэта выходзіла рэгулярна — СПАДЗЯЕМСЯ НА ВАШУ ШЧОДРУЮ ПАДТРЫМКУ.**

**Управа БАЗА**
**Рэдакцыя «Беларуа»**

## СУСТРЭЧА З КІРАЎНІКОМ БЕЛАРУСКАЕ СЭКЦЫІ РАДЫЁ СВАБОДА

21-23 лістапада адбываліся нарады дырэктара Беларускае сэкцыі радыё Свабода сп-ра Вячаслава Станкевіча з прадстаўнікамі Дзяржэпартамэнту і іншых дзяржаўных і недзяржаўных установаў у Вашынгтоне, а 24 лістапада сп. В. Станкевіч рабіў даклад перад беларускай грамадой у грамадзка-рэлігійным цэнтры у гор. Гайлянд Парку, шт. Нью Джэрзі.

Сп. Станкевіч расказаў як працуе радыё Свабода, зь якімі сустракаецца праблемамі рэдакцыя ды насьветліў палітычнае становішча на Беларусі. Гэтаксама сп. Станкевіч расказаў аб сустрэчах у Вашынгтоне ды падкрэсьліў, што ніколі да гэтуль у амэрыканскіх колах ня было гэткае зацікаўленасьці Беларусьсю.

Вашынгтон добра азнаёмлены з сытуацыяй на Беларусі, у чым выдатна дапамаглі спадары З. Пазьняк і С. Навумчык.

**Радыё "Свабода" можна слухаць:**
*У Менску:* ад 6 да 7:30 вечара на хвалях 6170, 7155, 7190
ад 10:00 да 11:30 вечара на хвалях 6095, 6115, 9750
*У усходняй частцы ЗША* ад 11 да 12:30 дня, ад 3-яй да 4:30 папаўдні на тых самых хвалях.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## СП. АЛЯКСАНДРУ ЛАШУКУ

адданаму й паважанаму грамадзка-палітычнаму дзеячу рэдакцыя «Беларуса» шле найлепшыя вітаньні ў сувязі з днём народжаньня і жадае яму добрага здароў'я й памыснасьці.

**Рэдкалегія «Беларуса»**

Высокашаноўнага грамадзка-палітычнага дзеяча, даўгадовага скарбніка Рады БНР, цудоўнага мужа, бацьку і дзеда

## ВІТАЛЯ КАЖАНА

вітаюць сям'я, сябры і рэдкалегія «Беларуса»

Высокашаноўнага

## ЯНКУ ЮХНАЎЦА

вядомага паэту, празаіка, драматурга, мастака вітаюць з 75-і ўгодкамі жыцьця ды зычаць доўгіх гадоў, творчага плёну, новых кнігаў

**Управа БІНІМу**
**Рэдакцыя «Беларуса»**
**Чытачы Амэрыкі і Беларусі**

## ВЕСТКІ ЗЬ ВІНІПЭГУ



*Боньні Грэшчук й Міхась Бурдзі*

3-га жніўня 1996 году, Спадарства Ірэна й Паўла Бурдзі спраўлялі вясельле свайму сыну др. Міхасю, які жаніўся із Боньні Грэшчук. Шлюб адбыўся а 3-ай гадзіне ў катэдры Сьв. Пакровы, дзе Міхась быў калісь і хрышчаны. Урачыстую Багаслужбу адпраўлялі два сьвятара: настаяцель катэдры а. Аўген Рудзіч і а. Карп Тарнапольскі. Надзвычайна пяяў да Багаслужбы прынагодныя вясельныя песьні хор "Гусьлі". Царква была перапоўнена родзічамі й прыяцелямі маладых.

Вясельная бяседа а 6-ай гадзіне вечара адбылася ў будынку "The Winnipeg Chamber of Commerce, 167 Lombard Ave. Лічных гасьцей. а было іх 275 асоб, віталі пры ўвайходзе ў залю бацькі, маладажоны й дружбаны.

Пад канец багате, хмельнае віном, і настраёвай музыкай, застольнае бяседы, прамаўлялі адзін за другім сябры маладой пары. Жартавалі зь іх і сардэчна жадалі ім памыснасьці й шчасься ў сямейным жыцьці. Дзякаваў на канец др. Міхась прамоўцам-сябром, дзякаваў усім, што спрычыніліся да наладжаньня для Боньні й яго такога слаўнага вясельля. Дзякаваў бацьком за жыцьцё і ўзгадаваньне. Дзякаваў перадусім свайму бацьку Паўлу, які напамінаў яму не забываць пра ягоныя беларускія карэньні. Сказаў Міхась свайму бацьку: «Вашыя, Тата, парады буду заўсёды ў жыцьці памятаць і выконваць!».

Др. Міхась з маладых год наведваў царкву, прыслужваў сьвятаром да Божае Службы ды бязумоўна заслужыў на ласку й блаславенства Усемагутнага. Мы беларусы ўсёй грамадой ад шчырага сэрца жадаем Вам, др. Міхась і спадарыня Боньні, дабра й шчасьця ў Вашым жыцьці. Блаславі Вас Божа! Сто Год Жыцьця!

І так пасьля цялеснай і духовай пажывы ініцыятыву пераняла гучная аркестра, і ў такт яе пайшлі ў ход гульні й скокі аж да другое гадзіны раніцы.

**Прысутны У. Г.**

* * *

Каардынацыйнаы Камітэт Беларусаў Канады ўтрымоўвае сталы кантакт зь беларусамі Вініпэгу Заходняй Канады, асабліва-ж з сем'ямі Паўлы й Яна Бурдзяў, якія бралі ўдзел у Канфэрэнцыі Прадстаўнікоў беларускага грамадзтва з усяе Канады, ладжанай ККБК ў 1991 годзе ў Таронта. Да нядаўна ў Вініпэгу было буйнае беларускае жыцьцё. Як і скрозь, так і ў Вініпэгу, ініцыятыва прадаўжаць працу бацькоў належыць маладому пакаленьню. І яму мы жадаем посьпехаў у жыцьці й працы.

Сябры Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады вітаюць Спадарства Ірэну й Паўла Бурдзяў із жанімствам іхняга сына др. Міхася із спняй Боньні, жадаюць у добрым здароў'і й шчасьці дачакацца ўнукаў й праўнукаў. А Маладым, др. Міхасю й Спадарыні Бурдзям, шчыра жадаюць доўгага, шчасьлівага й творчага, на славу бацькоў, Бацькаўшчыны й людзтва, сужэнства. Шчасьці Вам усім Божа!

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Старшыня ККБК**

*З жыцьця беларусаў Пэрту, Аўстралія*

## 10-ЫЯ УГОДКІ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЭДЫІ

У сыботу 27-га красавіка у Пэрце сабраліся беларусы і украінцы, каб адзначыць дзесятыя ўгодкі Чарнобыльскай аварыі.

Беларускую грамадзкасьць рэпрэзэнтавалі старшыня Б.А. Міхась Раецкі малодшы, сакратар Б.А. Алесь Мароз малодшы, прадстаўнік вонкавых сувязяў Міхась Раецкі старэйшы і настаяцель парафіі Жыровіцкай Божай Маці айцец Уладзімер Зайко. Адзначэньне ўгодкаў пачалося малебенам праваслаўнага і грэка-каталіцкага сьвятароў. Затым выступалі прамоўцы, якія расказалі аб жахлівых выніках выбуху на Чарнобыльскай АЭС. Апошнім выступіў выкладчык палітычных навук на Заходня Аўстралійскім унівэрсытэце. Ён гаварыў ня толькі аб Чарнобыльскай трагэдыі, але і палітычнай сытуацыі на Украіне і Беларусі. Сваю прамову ён закончыў словамі, што дэмакратызацыю гэтых краінаў павінны будаваць самыя людзі тых народаў. У часе адзначэньня лунаў наш бел-чырвона-белы сьцяг.

## 114-ЫЯ УГОДКІ НАРАДЖЭНЬНЯ Я. КУПАЛЫ

14-га ліпеня сябры Б.А. і суродзічы сабраліся ў англіканскай прыцаркоўнай залі, каб адзначыць 114-ыя ўгодкі нараджэньня Вялікага песьняра беларускай зямлі і прарока адраджэньня яе народа — Янкі Купалы. На праграму адзначэньня склалася два даклады, адзін па-беларуску, які зрабіў Міхась Раецкі старэйшы, а другі па-англельску прачытаў Міхась Раецкі малодшы.

10-га ліпеня беларуская радыяпраграма была поўнасьцю прысьвечаная Я. Купалу.

## ГАДАВАЯ ЗБОРКА СЯБРОЎ Б.А.З. АЎСТРАЛІІ

24-га жніўня ў залі БНД у Байсвотэр адбылася 45-ая гадавая зборка сяброў Б.А. у Заходняй Аўстраліі. Вітаў прыбыўшых і адчыніў зборку старшыня ўступаючай управы Міхась Раецкі малодшы.

Прысутныя згадзіліся на скарачэньне і тады пачаліся. Справаздачы зь дзейнасьці ўправы даў ейны старшыня Міхась Раецкі малодшы, а грашовага стану — Алесь Мароз малодшы. Пасьля справаздачаў адбыліся выбары. У новую ўправу ўвайшлі: старшыня — Міхась Раецкі малодшы, заступнік — Міхась Ёлаб, сакратар — Алесь Мароз, асыстэнт сакратара — Марылька Ёлаб, скарбнік — Алесь Мароз. Прадстаўнік газэты «Беларус» — Марыя Мароз, прадстаўнік вонкавых сувязяў — Міхась Раецкі старэйшы.

Па заканчэньні выбараў быў пачастунак за падрыхтаваньне якога належыцца падзяка спадарыні Зосі Ёлаб, Марыльцы Ёлаб і Марыі Мароз. У часе пачастунку была праведзеная падпіска на газэту «Беларус».

**Р.М.**

# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКА-ФРАНЦУЗКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ



*Група мастакоў і удзельнікаў Канфэрэнцыі*

Парыж быў у нашых думках ужо ад даўжэйшага часу, бо ведалі, фактычна спадзяваліся, што знойдзем яшчэ там шмат беларускага матар'ялу, друкаванага ў Францыі, ды наагул, Парыж быў адным з пачынальнікаў беларускага друку дыяспары. Часапіс «Рэха», які пачаў выходзіць у 1938 годзе, быў першым пасьля Праскіх выданьняў 1920-х гадоў, беларускім часапісам на эміграцыі.

Вось-жа, калі мы былі запрошаныя на Французка-Беларускую канфэрэнцыю, якая мела адбыцца у канцы кастрычніка сёлета, гэта выдалася нам добрай аказыяй, як-бы заплянаванай звыш. Тым болей, што праца наша над бібліяграфіяй беларускага друку на эміграцыі ужо амаль канчаецца (а пэрыёдыка амаль гатовая да друку) — патрэбныя толькі некаторыя выканчэньні, частку якіх мы спадзяваліся зрабіць у Францыі.

У Парыж мы прыляцелі 22-га кастрычніка. Сп. Лявон Шыманец, які і арганізоўваў Канфэрэнцыю і выставу беларускага мастацтва і разьвешваў афішы па цэлым Парыжы, які і запрасіў нас, які і адшукаў для нас жытво, спаткаў нас на лётнішчы і адвёз у гатель. Гатэль гэты, дарэчы, знаходзіўся амаль за рогам добра знанай беларусам вуліцы Гравіе, дзе у 1940-50-х гадох канцэнтравалася ўсё беларускае жыцьцё і была сядзіба а. Льва Гарошкі.

А на наступны ўжо дзень мы сядзелі ў рэзыдэнцыі Шыманцоў у Сартрэвіль і разьбіралі так багатыя калекцыі матар'ялаў зьвязаных з прысутнасьцяй беларусаў у Францыі. Знайшлі сапраўды шмат важнага й цікавага, а асабліва пашчасьціла папоўніць камплет успомненага ўжо «Рэха».

Назаўтра спаткаў нас Міхась Наўмовіч і павёз да сябе. Пазнаёміліся там з мастакамі зь Беларусі Ягорам Батальёнкам і Тодарам Капша, якія на час выставы затрымаліся ў яго. У Міхася Наўмовіча мы працавалі з архівамі арганізацыі моладзі. І, як заўсёды і як усюды, знайшлі нешта новае й патрэбнае. Пагаварылі тэлефанічна са сп-няй Нінай Абрамчык і даведаліся ад яе пра Бэрлінскія публікацыі. З сп-няй Нінай спаткаліся пазьней на Канфэрэнцыі, як, дарэчы, і пазнаёміліся са сп-няй Валяй Кавалеўскай і з мастаком Віктарам Жаўняровічам.

Перад Канфэрэнцыяй было яшчэ сяброўскае спатканьне і прыняцьцё у хаце Лявона Шыманца, дзе мы пазнаёміліся з другімі мастакамі зь Беларусі: Людмілай Кальмаёвай і еўным вельмі прыемным мужам (яны жывуць у Галяндыі), з Аляксандрам Родзіным, Людмілай і Аляксандрам Ступнікавымі. Людміла — кіраўнік дзіцячага фальклёрнага ансамблю «Мядунцы» і сама дасканальная сьпявачка цешыла нас сваімі сьпевамі, а Аляксандар — праўднік, які памысна даставіў групу беларускіх мастакоў у Парыж на мініаўтобусіку. Пазьней падыйшлі яшчэ толькі прыехаўшыя Вольга і Уладзімер Бокун, кіна-рэжэсёр, які прыляцеў у Парыж, каб падтрыхтаваць матар'ялы пра выставу й канфэрэнцыю. Пазьней, ужо на канфэрэнцыі, пазнаёміліся з арганізатарам групы Натальляй Ганчар і яе дачушкай Ганнай, якая у часе выставы цудоўна грала на цымбалах. Спня Ганчар зьяўляецца віцэ-прэзыдэнтам Дзіцячага Фонду «Сакавік». Прыемная была сустрэча з Ганнай Сурвіллай, якую мы ведалі яшчэ зусім маленькай дзяўчынкай.

Пэўна-ж ня мінулі нагоды аднавіць сваё знаёмства з Парыжам. Былі мы там некалі даўно, яшчэ студэнтамі, у пачатку 1950-ых гадоў. Але Парыж, застаўся Парыжам і мы хутка пачуліся там як дома. Гатэль наш быў цэнтральна паложаны і мы шмат хадзілі пешшу па сьцежках маладых гадоў, шмат успаміналі, шмат пабачылі. Папрацавалі гэтаксама ў Нацыянальнай Бібліятэцы, дзе, на вялікі жаль, беларуская калекцыя слабая. Паабяцалі Лявону Шыманцу прыслаць некаторыя беларускія матар'ялы для перадачы ў Бібліятэку.

Канфэрэнцыя пачалася у суботу 26-га кастрычніка у Цэнтры Эбэрт. У тым-жа цэнтры адбывалася выстаўка беларускага мастацтва, якая дзеяла ад 19 да 31 кастрычніка і прыцягвала, паводле арганізатараў, сапраўды рэкордную колькасьць наведвальнікаў.

На выстаўцы бралі ўдзел як беларускія мастакаі з Францыі, гэтак і мастакі зь Беларусі. Варта гэтта пералічыць іх усіх: Віктар Жаўняровіч, Міхась Наўмовіч, Барыс Забораў і Мікола Паўлоускі з Парыжу; Людміла Кальмаева з Галяндыі, Алесь Родзін, Раман Заслонаў, Вольга Дзёмкіна, Рыгор Батальёнак, Тодар Копша, Андрэй Адамчык і Марына Галінская з Беларусі. Шырыня тэматыкі і мастацкіх жанраў характэрна паказала харство і глыбіню беларускага мастацтва наагул. Слава нашым мастакам!

Канфэрэнцыя на тэму «Беларусь учора й сёньня», першая свайго роду і, як выказалася пазьней, першая з сэрыі далейшых канфэрэнцыяў, была вельмі ўдалай. І разнастайная тэматыка і узровень дакладаў выклікалі, у даволі людназ залі слухачоў, шмат дыскусіяў, пытаньняў і заўвагаў.

Адчыніў Канфэрэнцыю прэзыдэнт AGORA і вялікі прыяцель беларусоў сп. Буржэ і сп. Міхась Наўмовіч, старшыня Хаўрусу, а праводзіў канфэрэнцыю ведамы французкі славіст Даніэль Бовуа, які гэтак удала камэнтаваў і дапаўняў даклады.

У першай сэсіі даклады мелі: Др. Вітаўт Кіпель з ЗША на тэму «Насьледкі 200-гадовай русыфікацыі на Беларусі» і а. Надсон зь Лёндану «Вуняцкая Царква на Беларусі». У другой сэсіі мы мелі прыемнасьць слухаць трох маладых беларускіх дасьледніцаў Аляксандру Гужон, Віржынію Шыманец і Караліну Мацкевіч. Сп-чня Гужон вельмі глыбока зразумела й цікава прадставіла палітычную сытуацыю на Беларусі пасьля незалежнасьці 1991 году; Віржынка Шыманец крыху зьмяніла тэму свайго дакладу і вельмі зьмястоўна гаварыла пра палітычную сытуацыю у Беларусі і ралю інтэлігенцыі ў гэтым працэсе ды пра культуру мовы; Караліна Мацкевіч закранула і абгрунтавала фэнамэн «Тутэйшыя» — я тут, я тут гаспадар, я ў сваёй хаце і Бог саўсёды тут са мною — ня гледзячы хто пры ўладзе, хто кіруе навонках. Свой даклад яна яшчэ й ілюстравала вытрымкамі зь беларускай народнай песьні.

У нядзелю 27-га кастрычніка у царкве сьв. Уладзімера адбылася беларуская Багаслужба Усходняга абраду. Айцец Надсон урачыста й прыгожа служыў па-беларуску для ладнай грамады беларусаў і мясцовых і прыежджых службу і малебен за Беларусь.

Для нас служба гэтая была як-бы разьвітаньнем зь Беларускім Парыжам, бо назаўтра мы ўжо адлятлі дадому, з пачуцьцём задаваленьня з усяго зробленага, бачанага, з прыемнымі успамінамі, з добрымі надзеямі, што беларускае жыцьцё у Францыі не замрэ, асабліва, калі, як відаць, што ёсьць маладзейшае й зусім маладое пакаленьне й падмена.

А Лявону Шуманцу і Міхасю Наўмовічу сяброўскія вітаньні й падзякі.

**Зора Кіпель**

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

*Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі надзвычай багатая. яна ахоплівае часы даваенныя і паваенныя, злучае Беларусь зь Нямеччынай, Амэрыкай, Канадай. Яна — у зьмястоўных тамах і невялічкіх артыкулах-згадках, кожны зь якіх дадае нешта новае, жывое ў карціну нашага мінулага. Ёсьць свае залацінкі і ва ўспамінах Валі Яцэвіч:*

«Студэнты Беларускага Пэдагагічнага Тэхнікуму ў Менску прыехалі з розных куткоў Беларусі, пераважна зь вёсак. Усюды чулася беларуская гаворка, дух ўва ўсіх быў чыста беларускі. І калі ў 1939 годзе прайшла чутка, што хочуць замяніць выкладаньне прадметаў зь беларускай мовы на расейскую, усе студэнты страшэнна абурыліся. У клясах адкрыта выступалі, маўляў, як гэта так: Беларускі Тэхнікум, у цэнтры Беларусі, а выкладаць хочуць па-расейску! І, ня ведаю, ці тое дапамагло, ці што іншае, але-ж далей выкладаньне ішло выключна пабеларуску — аж да пачатку вайны.

Былі ў Тэхнікуме ў той час некалькі прафэсараў (як Пратасэвіч, Гурыновіч, Чайко), якіх студэнты вельмі любілі, проста адчувалася штосьці роднае, беларускае ў іх.

Вось у гэтай атмасфэры знаходзіўся і Алесь Салавей. Ужо з першага курсу ў 1938 годзе яго вершы пачалі з'яўляцца ў насьценнай газэце — вядома, пабеларуску.

Зноў сустрэлася я зь ім ужо ў Аўстрыі, у Вене, у самыя цяжкія дні бамбардзіровак горада. Жыла я на той час на невялікай фарме, каля 25 км ад сталіцы. Выпрасіла ў сваёй гаспадыні дазвол прывесьці яшчэ дваіх жыць, няхай сабе на падстрэшшы. І яна паставіла ложак, і пярыну дала, бо то была ўжо зіма. І Салавей з жонкай Зінай прыехалі адразу. Гэтак разам перабылі мы тую зіму, у холадзе ды голадзе. Хоць час ад часу налятлі самалёты, але было ня так страшна, як у Вене. Праўда, адна досыць вялікая бомба патрапіла ў суседскі гарод, мэтраў 25 ад нашай хаты, але, дзякуй богу, не ўзарвалася.

1 красавіка 1945 г. — каталіцкі Вялікдзень, а фронт 10 км ад нас. І мы зноў апынуліся ўсе разам на дарозе на Захад. Ішлі пешшу. Цяжка ішлі. Есьці не было нічога, акрамя чорных сухароў, ды тых ня шмат. Пабачылі мы Альпы, хоць ня было калі заглядацца на іх. Месяц ішлі пехатою аж да Лінца на Дунаю, а потым далей. Спыніліся, калі сустрэліся з амэрыканскім войскам каля г. Браўнац. Было тое 5-га траўня 1945 г., а 6-га мы ўжо сьвяткавалі праваслаўны Вялікдзень, нават у хаце ўжо жылі, а не ў гумне баварскім, дзе часам нават саломы ня было.

Скончылася вайна. Хоць ня было лёгкая эканамічнае жыцьцё, аднак не галадалі. Толькі ўсё роўна сп. Салавец нудзіўся, сумаваў за сваім краем. Багата пісаў. У гутарцы зь ім толькі і гаворкі было, што пра Беларусь ды беларусае. А калі яны дазналіся, што будзе ў іх нашчадак, Алесь сказаў так: «Калі будзе сын — назавем Міхасем, а як дачка — Ганулькай».

Неўзабаве яны выехалі ў Зальцбург, і я ўжо больш зь імі не спатыкалася, на жаль».

## СЬВ. ПАМЯЦІ УЛАДЗІМІР ДУТКА



2-га лістапада 1996 г., пасьля доўгага лячэньня, памёр на 83-м годзе жыцьця сьв. памяці Уладзімір Дутка. Маладыя годы пражыў ён у вёсцы Лані й Нясьвіжы, дзе ў 1936-ым годзе закончыў Настаўніцкую Сэмінарыю й атрымаў дыплём настаўніка. У тым-жа годзе быў пакліканы ў войска, у афіцэрскую школу ў Слоніме. Пасьля вайсковай службы працаваў настаўнікам у пачатковай школе ў мястэчку Сноў каля Нясьвіжу. Там ажаніўся з Ромай Быкоўскай. У 1944 годзе быў змабілізаваны ў Беларускую Краёвую Абарону, у выніку чаго апынуўся ў Нямеччыне.

Пасьля ІІ-ой Сусьветнай Вайны закончыў Лясны Факультэт у Мюнхэне, а ў 1952 годзе эміграваў у Злучаныя Штаты Амэрыкі, куды ў 1958 годзе пераехала з Польшчы ягоная жонка Рома. Тут павялічылася іх сямейка сынам, таксама Ўладзімірам. Увесь час жылі ў штаце Нью Джэрзы, цяжка працуючы.

У 1979 годзе выйшаў на пэнсію і, уладжаны, добра пражыў да гэтага году, калі сустрэў яго нешчасьлівы выпадак, пасьля якога доўга пралежаў у бальніцы ў Патэрсоне і душу Богу аддаў.

Уладзімір Дутка быў глыбока веруючым чалавекам і ахвярным суродзічам. У смутку пакінуў жонку Рому, сына Уладзіміра, Сыновую й унучку Александру, а таксама блізкіх сяброў, з якімі разам жыў і працаваў. Пахаваны на могілках Laurel Grove Memorial Park, Totowa, N.J. Пахавальны абрад выканаў сьвятар Парафіі ў Кліфтон Вялебны Айцец Вацлаў.

Няхай пухам будзе яму амэрыканская зямелька й вечная памяць у Сям'і й сярод усіх знаёмых.

**Міхась Тулейка**

## СЬВ. ПАМ. МІХАСЬ МАХНАЧ



Памёр 1-га верасьня пасьля апэрацыі ў шпіталі ў Гінсдэйл на 79 годзе жыцьця, пакідаючы ў смутку жонку Ванду ў Ля Грэйндж, каля Чыкага і двух братоў у Беларусі.

Міхась Махнач нарадзіўся ў сям'і малазямельных бацькоў 10-га студзеня 1917 г. у вёсцы Зарытава, што ў гміне Ляхавічы. Меў шасьцёх братоў, найстарэйшы паехаў у Амэрыку ў 1913 годзе, другі загінуў у 1920 годзе, двух загінула пад Бэрлінам у часе другой сусьветнай вайны.

Жыцьцё ў сям'і было цяжкое і бацькі ня мелі магчымасьці даць належную асьвету сваім сыном. Міхась пасьля заканчэньня пачатковае асьветы паступіў у земляробскую школу каля Жыровіцаў.

У часе вайны быў змабілізаваны ў савецкае войска і ў баёх трапіў у палон у Фінляндыі. Пасьля заканчэньня вайны, палонных, якія не жадлі варочацца на Бацькаўшчыну, перавезьлі ў Нямеччыну, дзе і апынуўся Міхась. Там ён сустрэў сваіх суседзяў і ў 1947 годзе ажаніўся з Вандай з дому Чарнэцкае. Хутка пасьля гэтага эміграваў у Амэрыку да свайго брата каля Нью-Ёрку.

У 1950 годзе паехаў у Чыкага, куды й прыехала ягоная жонка Ванда зь Нямеччыны. Працаваў у Western Electric да выхаду на пэнсію ў 1980 г.

У Чыкага прыймаў удзел у грамадзкім жыцьці, сьпяваў у хоры беларускай Каталіцкай Царквы усходняга абраду Хрыста Збаўцы. Займаў становішча старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Іліной ад 1992 г. Быў старшынём Беларускага Каардынацыйнага Камітэту у Чыкага ад 1990 да 1992 г. і быў узнагароджаны пляекткай узнаньня разам з жонкай Вандай за грамадзкую працу і фінансавую дапамогу беларускай прэсе і арганізацыям. Выконваў абавязкі скарбніка аддзелу БНР у Чыкага ад 1993 году.

Паніхіда была адслужаная вечарам 3-га верасьня айцом Джанам МэкДанэлам, настаяцелям беларускай каталіцкай Царквы Хрыста Збаўцы супольна з праваслаўным сьвятаром Вячаславам Ільчуком у пахавальным доме з увагі за тое, што нябожчык быў праваслаўнай канфэсіі.

Урачыстая Літургія з паніхідай была адслужаная ў сераду 4-га верасьня айцом МэкДанэлам у каталіцкай сьвятыні Сьв. Луізы дэ Марыляк.

На могілках, пасьля кароткай паніхіды, з разьвітальнымі словамі па-беларуску выступіў др. Вітаўт Рамук, які выказаў спачуваньні жонцы Вандзе, нагадаў пра жыцьцёвы шлях нябожчыка. Сп-ня Вера Рамук пачангельску выказала спачуваньні жонцу Вандзе і ёйным родзічам ды нагадала, што неспадзяваная сьмерць зьменшыла рады беларускай грамады ў Чыкага, успомніўшы, між іншым, што Міхась і Ванда былі зь першых, хто сьпявалі ў царкоўным хоры беларускай каталіцкай Царквы усходняга абраду Хрыста Збаўцы.

Сьпі спакойна, Міхась, на вольнай зямлі Вашынгтона, што ветліва прыгарнула Цябе і хай сьняцца Табе сны пра Беларусь, якую горача любіў.

**Др. Вітаўт Рамук**




6-га кастрычніка сёлета мінула два гады ад сьмерці Тарэсы Тарасэвіч. Яна памерла ў Чыкага ў дзень свайго нараджаньня, скончыўшы 88 гадоў жыцьця.

Тарэса паходзіла з Кляшнякоў, что ў Шчучынскім раёне у Беларусі. У 1922 годзе, калі ёй споўнілася 16 гадоў, Тарэса пакінула Беларусь і пасялілася ў Швэйцарыі. Там яна закончыла сярэднюю і вышэйшую асьвету і пасьвяцілася працаваць для пакрыўджаных лёсам дзяцей.

У ЗША Тарэса прыехала у 1948 годзе і працавала ў шпіталі Мэрыгол у штатце Віскансын. У 1952 годзе Тарэса пераехала ў Чыкага, дзе прайшла курс лябаранткі. Нейкі час працавала ў прыватнай мэдычнай лябараторыі ў Оук Парк, у прадмесьці Чыкага, а пасьля, аж да пераходу на пэнсію, у Сэйнт Люк Прэзбітэрыянскім шпіталі ў Чыкага.

Тарэса усё жыцьцё была незамужнай. Была яна глыбока веруючай каталічкай і добрай беларускай патрыёткай. Была жыцьцярадаснай і вясёлай з натуры. Любіла сьпяваць і танцаваць. Яна да кожнага мела ўсьмешку і дапамагала чым толькі магла.

Калі яе брат, а. Хрызастом Тарасевіч, арганізаваў Беларускую Каталіцкую Усходняга абраду Царкву Хрыста Збаўцы, яна поўнасьцю уключылася ў царкоўную справу. Яна кухарыла, прыймала гасьцей і нават чысьціла царкву.

Тарэса брала чынны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці. На выстаўках яна дэманстравала прадзеньне нітак і гэтым прыцягвала да сябе і да беларускага стоішча увагу шматлікіх наведвальнікаў. Ні раз прыходзілася чуць ад дзяцей, што чараўніца (fairy) прадзе залатыя ніткі зь лёну. Дзякуючы ёй, мноства наведвальнікаў выставак упяршыню атрымалі інфармацыю пра Беларусь. Яе часта запрашалі дэманстраваць прадзеньне і расказаць пра Беларусь у школы і розныя клюбы.

Тарэса таксама брала ўдзел у хоры Калядоўшчыкаў і пастаноўках «Каляды у Беларусі», якія вельмі цаніліся наведвальнікамі Музею Навукі і Індустрыі ў Чыкага. Яна вельмі ганарылася сваім беларускім касьцюмам і пры кожнай нагодзе яго надзявала.

Родныя і знаёмыя з сумам успамінаюць адыход ад нас любімай і незабыўнай Тарэсы. Вечны ёй супакой.

**Вера Рамук**

### Ахвяраваньні на БІНІМ

| | |
|---|---|
| М. Наумовіч | ам. дал. 145 |
| М. Смаршчок | 300 |
| В. і З. Кіпель | 300 |
| А. Маркевіч | 82 |
| Н. і В. Сьнежкі | 50 |
| К. і М. Верабей | 25 |
| А. Сільвановіч | 10 |
| В. і Л. Кажан | 70 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Хв. Кажаневіч | 28 |
| А. Кажан | 100 |

### Ахвяраваньні на дзейнасьць Галоўнае Управы БАЗА

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпель | ам. дал. 600 |
| В. Заморская | 500 |
| А. Кіпель | 200 |
| М. Латушкін | 100 |
| К. Акула | 100 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 100 |
| К. Каранеўскі | 88 |
| М. Буцько | 87 |
| А. Шукелойць | 200 |
| А. Субота | 200 |
| А. Рамана | 500 |
| В. і Г. Русак | 500 |
| А. і Н. Сільвановіч | 600 |
| Фонд Адраджэньне | 600 |
| Ф. і В. Бартуль | 500 |
| І. і Я. Сурвіллы | 200 |

### Прыслана непасрэдна ў Рэдакцыю

| | |
|---|---|
| П. Бурдзь | ам. дал. 109 |
| В. Рамук | 20 |

### Фінансавая справаздача за кастрычнік 1996
### Ад Трыгубовіча Сяргея

| | |
|---|---|
| Я. Сурвілла | ам. дал. 100 |
| Е. Завістовіч | 40 |
| М. Сенька | 35 |
| В. Артон | 30 |

У гонар 80-х угодкаў народзінаў нашага бацькі-папы **Віталя Кажана**, пасылаем $300 на газэту «Беларус»
Larysa Kazan Dubovik
Eugene Kazan
Margaret Kazan Brozdowski
Julia Kazan Buratynski

**Падзякі за прысланыя матар'ялы:** Я. і І. Сурвіллы, Б. Даніловіч, П. Гуз, Л. Шыманец, Я. Жамойцін, М. Швэдзюк, А. Алехнік, А. Маркевіч, У. Гуцько, У. Акавіты, Ю. Найдзюк, А. Сільвановіч, В. Мельяновіч, К. Акула.